
У нумары: МАЯ ГАГАТУХА  ЛІТАРАТУРНАЯ СТАРОНКА  РЭФЕРУЮ АБ МАЛАДОСЦІ


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 6 (519) ГОД XI 6 ЛЮТАГА 1966 г. ЦАНА 60 гр.


ЦУДЫ З_МЫ

Казачна выглядае зімою палявая груша, пакрытая серабрыстым інеем.
Фота ЦАФ

У ПОШУКАХ НЕСПАКОЙНЫХ

## Неэлектрыфікаваны куток

Ужо ў павятовай Гайнаўцы завуць так раён, які займае ГРН Старое Ляўкова. Уражанне кутка гэты раён робіць. І неэлектрыфікаваны ён таксама сапраўды. На 8 вёсак, з якіх найбольшая Ляшукі (з польска-Эльяшукі) — 96 гаспадароў, толькі Новае Ляўкова мае лямпачкі Эдзісона. Некалькі метровую даўжыню, якая раздзяляла дзве, як жа іншыя вёскі, Ляўкова Новае ад Старога, заняла новая злеўня малака, збудаваная для абедзвюх вёсак, і яна спалучыла іх па сутнасці ў адну вёску. Але, будзем паслядоўны, і калі сказалі, што дзве іншыя вёскі, дык пастараемся даказаць гэта на фактах на славу вёскі... Новага Ляўкова.

Пачнем ад электрычнасці. Якраз Новае Ляўкова згадзілася (кожны з жыхараў унёс належны яму грашовы, немалы ўклад) у вёсцы залажыць электрычную інсталяцыю. Стараляўкоўцы пайшлі ў галаву па розум: за ціхай падмовай (так мне людзі казалі) былога солтыса пусціліся на стары спосаб, які завецца хітрасцю. Было, менавіта, вядома, што за вёскай паўстане керамічная фабрыка (зараз ужо яна ў будове) і стараляўкоўцы вылічылі сабе, што фабрыка будзе будаваць да сябе дарогу і зразумела правядзе электрычнасць. Так яно і сталася. Дарога будуецца (тут дарога пакрываецца з вуліцай) і электрычнасць фабрыка мае. Але не мае яе Старое Ляўкова. Цяпер трэба чакаць 1967 года.

Другое — спулдзельня здароўя. Такая планавалася тут. Новаляўкоўцы, усе 45 гаспадароў, падпісалі дэкларацыю і свой удзел — 250 зл. Патрэбнай колькасці ахвотных не знайшлося ў Старым Ляўкове. На 64 гаспадары згадзілася толькі 22. Такім чынам праект спулдзельні здароўя для раёна Ляўкова — страчаная аказія.

Вакол Ляўкова —аднаго і другога — расселіся маленькія вёсачкі з маляўнічымі назвамі: **Церамкі,** Сушчы **Барок,** Бернацкі **Мост,** Міхноўка, **Падляўкова.** Само Ляўкова гучыць таксама мелодыяй. Суседзі з-за Нарвы празываюць тутэйшых л і ц в і н а м і, а тутэйшыя не пераймаюцца, бо гэтак з дзедапрадзеда, а прытым за такое мяккае і мілае слова ці ж можна гневацца?

Ляўкоўскія і ўсе падляўкоўскія, церамкоўскія ліцвіны — людзі сардэчныя. Вялікая прыемнасць зусім непланавана знайсціся ў кампаніі вось: Міхася Саевіча — солтыса з Новага Ляўкова, Захара Сухадолы з Падляўкова, Паўла Казлоўскага з Новага Ляўкова, ці ляснічага Віктара Андрасюка Яны зайшлі да старшыні ГРН Мікалая Скепкі. Ён з маладых, а яны ведаюць і памятаюць нямала. Хоць бы, як калісьці бацюшка Рафаіл мачыў вопратку, ходзячы па падляўкоўскім бродзе. Цяпер ходзяць па мосце, і ўвогуле дарогі лепшыя на столькі, што, як кажа Міхась Саевіч, «каб мой бацька ўстаў, то не трапіў бы дахаты». Гэта якраз за дарогі гэты прапорчык пераходны, што ўпрыгожвае першы і адзін з двух

(Працяг на стар. 2)

ПЕРАДЗ'ЕЗДАЎСКАЯ ТРЫБУНА

## БОЛЬШ ІНІЦЫЯТЫВЫ

Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў пачатку 1966 года будзе адзначаць сваё дзесяцігоддзе ад дня ўтварэння. Дзесяць гадоў, а здаецца так нядаўна мы ведаем яго дзейнасць і існаванне ў Польшчы. Ідучы насустрач юбілейнай даце на шляху БГКТ, несумненна, варта адзначыць пэўныя рысы яго дзейнасці і замашыстых імкненняў у некаторых напрамках. І так, Галоўнае праўленне БГКТ зрабіла шмат у культурна-асветнай галіне сярод беларускага насельніцтва, але, як гаворыць мудрая прымаўка «адзін у полі не воін», і таварыства неаднаразова мела шчырую дапамогу з боку розных устаноў. Гэта, несумненна, калі ідзе ў пары з узаемадапамогай, неабходны і ўласцівы падыход у напрамку шырокага супрацоўніцтва. Маю на думцы наладжванне выставак напр. дзеля папулярызацыі народнага мастацтва, арганізацыйны бок радыёперадач па радыё на беларускай мове, арганізаванне такіх культурных мерапрыемстваў, як фэсты з нагоды адзначэння 40-годдзя Грамады, ці ў скорай будучыні 10-годдзя БГКТ у Польшчы і г. д., або набліжэнне сваіх пачынаючых мастакоў і паэтаў ці празаікаў да насельніцтва, якое пражывае не толькі на Беласточчыне.

Шырокім крокам у працы БГКТ з'яўляецца выдавецтва часопісаў — штотыднёвікаў на роднай мове «Нівы» і «Зоркі», якім зараз 10 год, выдавецтва беларускіх кніжак, календароў, кніжак-дапаможнікаў пры вывучанні беларускай мовы ў школе, альманаха ці навуковых зборнікаў і г. д. «Ніва» здабыла сабе шмат сімпатыкаў-чытачоў, падпісчыкаў і ў пэўнай меры «выгадавала» сабе «тэрэновых» карэспандэнтаў, якія з'яўляюцца вачыма і вушамі рэдакцыі на Беласточчыне, і не толькі, бо і ў другіх ваяводствах. Такім шляхам «Ніва» пачала друкаваць больш змястоўныя артыкулы і мае неразлучны кантакт са шматлікім насельніцтвам, яго поспехамі ці клопатамі, удачамі і няўдачамі. Прытым варта адзначыць, што «Ніва» мае добрых

(Працяг на стар. 4)

■ АНКЕТА ■ АНКЕТА ■ АНКЕТА ■ АНКЕТА ■

## ДАРАГІ ЧЫТАЧ!

**4 сакавіка г. г. спаўняецца 10 год з дня, калі выйшаў першы нумар «Нівы». За ўвесь гэты час мы стараліся быць найлепшым сябрам, як маглі, стараліся выконваць Твае пажаданні. Аднак разумеем, што можам яшчэ больш наблізіць сваю працу да Тваіх патрэб. Таму кіруем да Цябе. Дарагі Чытач, пытанні, на якія просім даць нам адказ да 18 лютага г. г. Хочам аб выніках анкеты паведаміць у юбілейным нумары.**

**1. Што чытаеш найахвотней (падкрэсліць):**

**а) артыкулы — гаспадарчыя, грамадскія, бытавыя культурныя**

**б) артыкулы на тэмы гісторыі, літаратуры, этнаграфіі, аб свеце, навуцы і тэхніцы**

**в) сталыя рубрыкі: з жыцця БГКТ, з БССР Сельская гаспадарка без таямніц. Сучасная жанчына, Сардэчныя тайны, Дзядзька Лявон, Песні па заяўках**

**г) аповесці, успаміны, вершы, апавяданні**

**д) гумар і сатыру**

**2. Якія з гэтых аддзелаў прапануеш пашырыць?**

..........................................................

..........................................................

..........................................................

..........................................................



На дарозе ў Чыжы. Фота: Ул. Паўлючук

# БЕЛАВЕЖА

орган літаратурна-мастацкага аб'яднання пры ГП БГКТ № 86

Рэдактар І. Чыквін.


## ГЭРТА

Так называлі яе ў Янаве. Добрая дзяўчына і работніца ў гаспадарцы.

Гаварылі:

— Такая маладая, а на кабыле ездзіць. Маладзец, дзяўчына!

Маладая — кроў і малако. Кавалеры чапляюцца.

Аднаго разу Гэрта палезла па сена, але хтосьці затрос драбінаю і закрычаў:

— Гэрта!

Гэта быў Казё.

— Свіння, — зазлавала Гэрта. — Выходзь згэтуль!

Але ён яшчэ мацней затрос драбінаю, аж Гэрта забаялася.

— Маеш файныя ногі, Гэрта. І ўсё файнае.

— Уцякай, дурны, ідзі сабе!

Казё глядзеў дагары і гаварыў:

— Ты падабаешся мне, праўду кажу.

— Як убачыць цябе мой бацька, дастанеш!

Страсянула нагою сена.

— Твой бацька добры, любімся, як суседзі. Я вам усё памагу, маеце работы многа, а рук да яе мала. Ведаеш, што я думаю: каб твой бацька купіў трактар...

— Дурны, — паўтарыла Гэрта. — Я табе сказала, ідзі.

— А не пайду, хачу пагаварыць, ну, зыйдзі.

— Не зыду.

— То я там, да цябе прыду і пагаворым.

— Не! — крыкнула. — Не лезь!

— А як улезу?

— Спрабуй толькі!

Казё ўлазіў, а яна ўхапілася за канец драбіны і адпіхала яе, аж забаялася, што ён зваліцца.

Падала яму руку.

**Эдвард Ярашэвіч нарадзіўся 15 ліпеня 1942 г. у мястэчку Янаў каля Саколкі. Закончыў Тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі ў Супраслі, а потым Настаўніцкую студыю.**

**Працуе ў Павятовым аб'яднанні сельскагаспадарчых гурткоў у Беластоку.**



— Чаго ўлез?

Казё засмяяўся і абняў Гэрту за плечы, загаліў ногі і пакаціў на сена.

— Пусці! — пішчала.

Хлопец, якому бліпічаць зубы і б'е кроў, пачуў пад сабою поўную дзяўчыну. Яна цяжка дыхала. Унізе неспакойна заіржала кабыла, з пустой стараны выскачыла перапалоханая курка.

Калі злазілі па драбіне ўніз, Гэрта ўглядалася ў недамкнёныя дзверы і папраўляла спадніцу.

— А ведаеш што? Заўтра ўбачымся, ну, не.

Гэрта не адказала.

— Маўчыш? — Казё даткнуў яе плячэй. Яна ўздрыганула, але не скінула яго рукі. Узяла вядро, у якое мела даіць карову.

Пайшла дахаты.

— Скажы маме, што малако вылілася, заўтра падоіш, — дараіў Казё.

У хаце, ад парога, закрычала маці:

— Чаго так доўга была!?

Бацька сядзеў у каморы і чытаў газету.

— Разлілося, — сказала Гэрта.

— Што! Зноў папоцемку даіла! Я табе казала ўвязаць карову на двары! — маці павярнулася да бацькі. — Картофлю з постам будзеш есці.

Бацька зняў акуляры і ўглядаўся на дачку.

— Чаго так крычыш, — сказаў да маці. — Ну, чаго?

Гэрта паставіла вядро, пайшла да каморы і лягла на ложку.

Яна плакала.

**ЭДВАРД ЯРАШЭВІЧ**

### МАСТАЦКАЕ КАХАННЕ

*А. Барскаму*

Вялікая кара
сляпым пальцам,
калі яны заблудзяцца
з песняй жабрачай
ля грудзей дзявочых
у пошуках працы.

І, раскавыраўшы
згрэбную кашулю,
растапыраць вушы,
носам засапуць,
у подушку ўбіўшы
з'яднанае натхненне.

Кахаць другіх —
цяжкі крыж.
З сваёю ношаю жаніх
брыдзе і за яе дрыжыць,
і кара пальцам
за няўменне па-мастацку жыць.

**І. ЧЫКВІН**

## САКОЛЬСКАЯ НОЧ

Неба зацягнула хмарамі. Надыходзіла ноч, і брахаў сабака.

У хаце палеглі спаць, калі на двары пачуўся крык — і цішыня.

Раптам хтосьці па сцяне пацягнуў рукамі.

— Хто там?!

За сцяною сціхла.

Мужчына даткнуў галавы бабы.

Паявілася больш з карабінамі. Бахнулі выстралы.

— Гэта пастарунак.

— Ага.

Чалавек пры вутле не рухаўся. Пачаў падаць дождж, стружкі вады цяклі з даху, а той усё стаяў — потым пачаў страляць раз за разам.

Зазвінелі шыбы ў каморы.



— Ну, устань, — гаварыў ёй. — Выглянь на двор.

Баба вылезла з ложка, папраўіла дзіця ў калысцы.

— Ідзі на двор!

— Я баюся, — сказала баба. — Ідзі ты.

І паглядзела ў акно.

— Стаіць пры вуглу якісьці чалавек...

— Стаіць? — пытаў мужчына. — Хто?

— Абач ты сам, трымае карабін у руках.

— Карабін?

Мужчына падышоў да бабы пры акне.

— Хіба Немчыновіч... Стаў, халера, напроціў хаты, будзе страляць. Рыхтык пры хаце!

Праз дарожку каля гумна хутка прайшло трох чалавек, таксама з карабінамі.

— Пачынаецца чапуха, — сказаў мужчына.

— З пастарунку страляюць да нас! — крыкнула баба.

— Дзеці збудзі! — папхнуў яе мужчына.

— Геню, Антось — уставайце! — галасіла баба і трасла іх галовы.

Куля разбіла шыбу і загразла ў сцяне. Мужчына схапіў дзіця ў калысцы.

— Геню, Антось — уставайце!

Пачулі.

Мужчына засланіў усіх пярынаю і камандваў:

— Уцякайце за печ!!

— Матка Боска, што з намі будзе! — плакала баба.

— Перастань! Чуеш? Перастань!

Мужчына лаяўся.

— Халеры на іх няма!

Назаўтра аказалася, што пастарунак разбіты.

**ЭДВАРД ЯРАШЭВІЧ**



**ЯНКА ЦЯЛУШЭЦКІ**

## ВЯРТАННІ

### У СНЕ

Хмарка на вадзе.

Здаецца, лаўлю Нінчыны рукі і халодныя косы з-пад белай хусткі.

Усмешка яе расплываецца, зацягае бялеючыя далі так таемна, што здэцца мне звар'яцелай! Навошта смяецца яна, робіць прыжмурынку?.. Душу папяліць трывога.

То зноў трымаю яе гібкасць.

І сон растае ўранне.

### НАД ПІСЬМОМ

Калі гасне горад, бяру лісток паперы: хай гэта ўжо будзе мой адказ на пісьмы з хаты — аб вяселлях, працы ў полі, аб тым, што ад Пакровы нездаровіцца маці...

Ёй балюча, калі ўтаміўшыся за гаспадаркай, глядзіць у акно — за ім паплавы, яругі і старарэчышчы, якія ператварыліся ў пратокі. Матчыны вочы глядзяць на мокрыя дрэвы.

Над вокнамі старой хаты палае бэз. І звоняць у царкве.

### ПАХІ

З радасцю і болем кожны раз еду ў родныя аселішчы.

Пах каснікоў бяроз і жнівеньскай зямлі ў загрывачаным калоссі — з грыбнымі зацішкамі і начлежнымі досвіткамі.

З вечнай аскомай недаспелых яблык...

О, родныя мясціны!

Жыццё як сон — як пах майскай чаромхі і садоў. Вочы рады зямлі і сонцу, і зіхатлівасці нябёс.

Гады прамінулі.

Здаецца, чуеш, як звініць світальным клічам дрозд — перасмешнік у сасонніку; як пахнуць рамонкі на папарах і вецер — ліставей. і першы снег.

Гляджу шырокімі вачыма. І памяць гартае, і гартае.



### ВОСЕНЬ

Я грыбы збіраць сабраўся рана:
Павуцінне зацвіло ў расе,
Зіхацяць узоры цудна тканы
У небывалай, казачнай красе.

Знаю —
Відна павучкі ў запале ткалі
Цэлым летам дзень у дзень
Шаты цудныя ў зялёным гаю
І чакалі, восень хай прыдзе.

А яна прыйшла неспадзявана,
Восень шэрая з палёў.
У кашулі сумам патыканай,
У вяночку з верасоў.

Прыняла падаркі дарагія.
І цяпер дзе ні зірні,
Свецяць шаты залатыя
Чіткамі лятучых павуцін.

**УЛАДЗІМІР ГАЙДУК**



### ЧАКАННЕ

Пошта з'явілася ў вёсцы,
Многа часопісаў, лістоў.
Маці злуе на пісьманосца,
Што абмінае дом ізноў.

Штодзень ад рання да змяркання
Напружвае свой слых і зрок.
Яе жыццё — гэта чаканне
На весткі чулыя здалёк.

У слязах не разважае маці
Што не вінаваты паштальё
А сына трэба вінаваціць —
Дахаты рэдка піша ён.

**ВІКТАР ШВЕД**

 



На здымку: вучні 11-га класа.

Фота: А. К.

# Брава, Гайнаўскі ліцэй!

Аказваецца, што і ў дрэнных умовах можна рабіць многа карыснага.

Маю на думцы беларускі ліцэй у Гайнаўцы. Што тут вельмі кепскія памяшкальныя ўмовы, ужо ведаюць нашыя чытачы.

Але, нягледзячы на гэта, дырэкцыя школы і бацькоўскі камітэт пастанавілі ўвясці ў школе харчаванне. Мясцовая ПСС кожны дзень, у спецыяльных тэрмасах, прывозіць у школу гарачы суп. Гэтай формай харчавання карыстаюцца не толькі 112 вучняў, але і настаўнікі. Такі «абед» з завозам каштуе 3 зл. у дзень.

Бацькоўскі камітэт закупіў для вучняў лыжкі і міскі. Шкада толькі, што дагэтуль не ўключыўся аддзел асветы, які напэўна мог бы памагчы нават матэрыяльна некаторым вучням.

У гайнаўскім ліцэі няма сталовай і гэта кепска, але гарачы суп вельмі смакуе і на школьнай лаўцы.

Дбайнасць аб сваіх вучнях у Гайнаўцы можа быць наглядным прыкладам іншым школам. Хачу сказаць, што вучні тут лепш любяць найгоршы суп ад найлепшай кавы з малаком! (ак)

# Больш ініцыятывы

(Працяг са стар. 1)

журналістаў, якія ад выхаду ў свет першага нумара «Нівы» дабіліся ў сваёй працы здавальняючых поспехаў, а гэта пасадзейнічала і на большую папулярнасць часопіса, паднясло яго рангу сярод іншых газет і прыцягнула да сябе чытачоў. «Ніва» мае і такіх карэспандэнтаў, якія рэгулярна дасылаюць звесткі са сваіх асяроддзяў, таму і «Ніва» прызначыла ім старонку пад агульнай назвай «Трыбуна чытачоў».

Усе вясковыя і гарадскія дзеячы, якім неабходна была дапамога ў працы, з боку ГП БГКТ, у меру магчымасцей таварыства, атрымала яе. ГП вызначыла адказных працаўнікоў з мэтай падборкі рэпертуару для беларускіх вясковых самадзейных гурткоў і драмгурткоў. Каб забяспечыць гурткі сцэнічным матэрыялам, ГП выдала неабходную колькасць п'ес, мантажаў выдатнейшых пісьменнікаў, інсцэніровак. Абяспечвала інструктарскай дапамогай, улічваючы магчымасць шырэйшага запатрабавання на кніжку ў асенне-зімовы перыяд, задбала пра чытальніцтва на вёсцы, пра папаўненне бібліятэк адпаведнай літаратурай, або сарганізаванне такой бібліятэкі ў Доме культуры імя Кастуся Каліноўскага ў Гарадку карыстаючы з добраахвотных кніжных падарункаў з боку сваіх чытачоў. Іншым напрамкам дзейнасці ГП БГКТ з'яўляюцца мастацкія гурткі БГКТ, якія заснаваліся на шматлікіх беларускіх вёсках і ў розным асяроддзі. Праца гэтых гурткоў сведчыць аб тым, што моладзь хоча і патрапіць працаваць, што ёй не абыякава мастацкая дзейнасць. І беларускае таварыства павінна перайсці да працы з насельніцтвам. Асабліва звяртаць увагу на тыя гурткі, якія хочуць працаваць і якія дабіліся сваёй актыўнай працай значных дасягненняў. Узмоцніць дапамогай вышэй успамянуты рэзерв маладых сіл і пакіраваць ім у творчым і плённым напрамку, бо гэта ж пункты прыкладнай культурнай дзейнасці сярод аднавяскоўцаў і акалічных вёсак. Салідная праца беларускіх гурткоў уздзейнічала і заахвочвала б моладзь да такога ж роду мерапрыемстваў.

Аддзелы і праўленні аддзелаў павінны кантынуаваць сваю дзейнасць у далейшым. Яны знаёміліся б з патрэбай свайго павета і накіроўвалі б туды працу ГП. Каб ажыццявіць гэтыя заданні перад усім ГП павінна забяспечыцца ў спецыяльна падрыхтаваныя да такой працы кадры, аб якіх, дарэчы, у 1-ым нумары «Нівы» за 1966 год пісаў адзін з дыскутантаў, Віктар Швед, штатны працаўнік ГП. Галоўнае праўленне БГКТ павінна рабіць спробы ажыццявіць сваю дзейнасць у тых вёсках, дзе дагэтуль пануе прыказкавая «дрыгвянская глуш» і моладзь забыла, што можна ў сваёй вёсцы зрабіць жыццё больш культурным, а не гібець, закапаўшыся ў штодзённых клопатах і справах.

Хай жа часцей прыязджаюць у беларускія школы паэты і празаікі згуртаваныя ў літаб'яднанні «Белавежа» на аўтарскія сустрэчы. Такія сустрэчы пераконваюць моладзь, што і ў нас існуюць маладыя літаратары, а самім аўтарам важна гэта з таго пункту гледжання, што гэта спатканні з жывымі сведкамі свайго літаратурнага росту. ГП БГКТ неўзабаве, калі закончыць падсумаванні сваёй працы на дзесяцігадовым шляху, хай вызначыць, маючы даволі вопыту, больш жывыя напрамкі сваёй дзейнасці ў будучыні. Словам, больш ініцыятывы і інтэнсіўнасці ў новым дзесяцігоддзі.

ЯНКА ЦЯЛУШЭЦКІ

ВЫВЕСЬЦЕ НА ВІДНЫМ МЕСЦЫ

# Увага настаўнікі!

У апошні час беларускае радыё і тэлебачанне сталі ўдзяляць сур'ёзную ўвагу перадачам для школы. Адзін са студзеньскіх нумараў «Настаўніцкай газеты» падае праграму гэтых перадач. Думаем, што ахвотна выкарыстаюць іх настаўнікі беларускай мовы, так як амаль кожная школа мае радыёпрыёмнік.

Вучняў і настаўнікаў 5—8 класаў павінен зацікавіць радыёклуб **«Жывое слова»**, які вядзе пісьменнік У. Юрэвіч. Перадачы яго звычайна ідуць **у апошні аўторак месяца** і паўтараюцца на наступным тыдні.

**«Гартаем старонкі хрэстаматыі».** Гэта перадачы для старэйшых класаў пачатковай школы. А вось іх праграма:

9 лютага. Вершы М. Багдановіча.

16 лютага. Інсцэніраванае апавяданне К. Чорнага «Насцечка».

23 лютага. Урывак з рамана І. Шамякіна «Крыніцы».

9 сакавіка. Я. Брыль — «Надпіс на зрубе».

16 сакавіка. Радыёкампазіцыя па вершах і паэмах П. Труса.

29 сакавіка. А. Кулакоўскі — «Наш Салігорск». Выступленне аўтара.

30 сакавіка. Вершы П. Глебкі.

6 красавіка. Лірыка Пімена Панчанкі.

13 красавіка. Беларуская прырода ў вершах М. Лужаніна.

20 красавіка. «Курган» Я. Купалы.

27 красавіка. Радыёкампазіцыя «Раніца паэта», прысвечаная Ф. Багушэвічу.

4 мая. «Дзяцінства час» Радыёгутарка пра дзіцячыя гады Я. Коласа.

11 мая. Інсцэніраванае апавяданне М. Лынькова «Андрэй Лятун».

**«Для старшакласнікаў»** — гэта цыкл літаратурных перадач для вучняў старэйшых класаў, які складаецца з фондавых і новых запісаў буйных радыётвораў. І так:

14 лютага. К. Крапіва — «Хто смяецца апошнім».

28 лютага. «Радзіма зямля, прынікнуў я к табе». Радыёкампазіцыя пра М. Багдановіча.

14 сакавіка. Ананімная паэма «Тарас на Парнасе» і «Энеіда навыварат».

28 сакавіка. Байкі К. Крапівы ў выкананні майстроў мастацкага слова.

11 красавіка. Я. Коласа «Соцкі падвёў».

25 красавіка. «Твой і мой сучаснік». Радыёкампазіцыя па творах пасляваеннай беларускай паэзіі.

16 мая. Інсцэніраваныя старонкі з рамана К. Чорнага «Трэцяе пакаленне».

30 мая. Я. Купала — «Раскіданае гняздо».

Радыёперадачы можна таксама наіграць на магнітафонную плёнку і яны будуць служыць як неабходны дапаможнік у навучанні беларускай мовы.

(ака)

# Пачатак зроблены

Цікавую працу на пачатку новага года разгарнула павятовая камэнда гуфца ЗГП у Гайнаўцы.

Апрача традыцыйных навагодніх баляў для зухаў і гарцэраў, кулікаў, лыжных паходаў, вялікая ўвага звернута на агульнае развіццё моладзі і павышэнне яе палітэхнізацыі.

У адрозненне ад мінулых гадоў, у гэтым годзе будзе арганізавана (для большай урачыстасці) зборнае гарцэрскае абяцанне для ўступаючых з розных школ разам. Але перад абяцаннем будзе праведзена ваенная гульня з усімі вайсковымі правіламі. Арганізаваць ваенную гульню для гарцэраў узялася гайнаўская ЛОК. Яна дасць гарцэрам у выкарыстанне радыёстанцыю, нават петарды і сама будзе бараніць крэпасць, а гарцэры пойдуць у наступленне. Адным з найбольшых мерапрыемстваў гайнаўскага гарцэрства з'яўляецца падрыхтоўка да спецыяльнага конкурсу. Кожная школа, якая хоча прыняць удзел у гэтым конкурсе, павінна навязаць кантакт з адным з прадпрыемстваў Гайнаўшчыны. Большасць школ гэта ўжо зрабіла. Для прыкладу, падставовая школа № 2 — з тартаком, школа № 3 — з малачарняю, драўнінны тэхнікум — з тартаком і г. д. Моладзь за вызначаны час (2—3 месяцы) павінна дакладна пазнаёміцца з абраным прадпрыемствам. Спосабам на гэта могуць быць экскурсіі, спатканні з кіраўніцтвам, перадавікамі і г. д.

Закончыцца конкурс вялікай «згадуй-згадуляй». Прадстаўнікі кожнай са школ будуць адказваць на пастаўленыя пытанні аб працы прадпрыемстваў, іх прадукцыі, магчымасцях і вядомых на прадпрыемстве людзях.

Як бачым, планы 1966 г. і пачатак працы гайнаўскага гарцэрства вельмі цікавыя.

Жадаем як найлепшага іх выканання. (яч)

ПАШТОЎКА З ГАЙНАЎКІ



Цэнтр горада ў зімовую раніцу.

## Адным сказам

А як жа! Першыя ад канца гэта: Гайнаўка — 20 месца, Сямяцічы — 19 месца, Бельск — 18 месца. Такія пазіцыі занялі гаспадары (вёсак) гэтых паветаў у месяцы снежні ў зборы на школы 1000-годдзя. Прычын тут не аналізуем.

*

23—24 студзеня ў Варшаве адбыўся Краёвы з'езд Таварыства прыяцеляў дзяцей. З Беласточчыны ўдзельнічала ў ім 30 дэлегатаў. Дэлегатам быў і наш журналіст Вера Леўчук.

*

Канец старога года — для Дубіч Царкоўных закончыўся значным культурным дасягненнем. Перад усім дзякуючы старшыні ПГРН Мікалаю Чыквіну паўстаў тут комплексны Грамадскі цэнтр культуры, пасля Кляшчэляў, другі ў Гайнаўскім павеце.

*

Пасля рамонту ў прыгожым Доме культуры ў Сямяцічах, недзе ў сакавіку, будзе ўведзена новая форма працы: т. зв. фільмовыя панядзелкі — высвятлянне асветных фільмаў. Праектар сямяціцкі ПДК атрымаў ад Аддзела культуры ПВРН у Беластоку.

*

Аж 50 грамад на Беластоцкай зямлі яшчэ не мае бібліятэк. Цяжкасці перад усім з памяшканнямі і тут заданне ў тварэнні культуры для ГРН-аў, якія, калі захочуць, і зорку з неба знімуць. (вл)

# Мая гагатуха

ВАСІЛЁВА МАТІ
ПОШЛА ГОГОТАТІ,
А ВАСІЛЬ ЗА ЇЮ
КІНУВ ГОЛОВНЁЮ

(народная песенька з Бельшчыны)

**Вы, зразумела, ведаеце, што такое гагатуха, што такое багаты вечар. Вы, мабыць, памятаеце з дзяцінства, або з недалёкага мінулага стол застаўлены шматлікімі смакавітымі стравамі, дванаццацю рознымі стравамі, як кажа стары звычай. А мо і зараз звычай гэты жывы ў вашай вёсцы?**

**Старым звычаем пасля вячэры моладзь высыпалася на вуліцу, высцялала саломаю дарогі ад закаханых хлопцаў да закаханых дзяўчат і тварыла розныя свавольствы: затыкала коміны ў хатах, малявала шыбы вокан цяжказмывальнай фарбай, пераносіла ад хлопцаў да дзяўчат калёсы, сані і ўсё, чаго не паспеў спратаць гаспадар, а нават тое, чаго спратаць не мог, як вароты.**

**Такім быў традыцыйны багаты вечар, вечар поўны нечаканасці, крыку і смеху, вечар неспакою для старэйшых, і таямнічай трывожнасці моладзі, якая магічнымі сродкамі прабавала заваражыць сваю будучыню, вечар развітання са старым годам напярэдадні Новага года.**

*

**Гагатуха мая — гагатуха журналіста. Журналісцкія дарогі і сцяжынкі снегам завеяла; коціцца ён туманамі праз распластаваныя прасторы палёў, віхрыцца над дарогаю, замяняючы яе ў непраходнае снежнае румовішча.**

**На дарозе трактар «спыхач» адзінока змагаецца са стыхіяй. Услед за ім аўтамашына Прадпрыемства эксплуатацыі дарог, у якой ваш рэпарцёр «курсуе» паміж Ялоўкай, Міхаловам, Гарадком.**

**Вось дабраліся мы да Міхалова — Нязбодкі — старой асады, якой насельніцтва ў большасці складаюць беларусы-праваслаўныя. Міхалова — звычайная вёска**



 

